Ідзе падпіска на «Народную Волю» на другое паўгоддзе 2013 года.

# Народная Воля

№ 38 (3779)

17 мая 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

## Хто «прывязаў» Макея?

*Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей не можа выехаць на Захад, нават маючы афіцыйнае запрашэнне. Краіны ЕС дэ-факта паспрабавалі выключыць Макея са спіса беларускіх чыноўнікаў, якім не могуць быць адкрыты еўрапейскія візы, але цяпер ужо нейкія беларускія сілы не выпускаюць яго з Мінска.*

Уладзімір Макей афіцыйна запрошаны на сустрэчу кіраўнікоў МЗС краін "Усходняга партнёрства" ў Кракаў, якая адбудзецца 17—18 мая. Пра гэта афіцыйна паведаміла амбасада Польшчы ў Мінску. "Пасля кансультацый з нашымі партнёрамі па ЕС было прынята рашэнне аб запрашэнні беларускага боку. Запрашэнне перададзена на рукі спадару Макею, што прадугледжвае яго асабісты ўдзел у сустрэчы", — адзначылі ў пасольстве Польшчы.

Тым не менш у беларускім МЗС паведамілі, што ў Кракаў паедзе не міністр, а намеснік міністра Алена Купчына. У кампаніі людзей, вышэйшых па званні, яна, напэўна, будзе адчуваць сябе не вельмі ёмка. Так, ужо вядома, што ў мерапрыемстве прымуць удзел кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Малдовы, Украіны, а таксама краін Вышаградскай чацвёркі — Венгрыі, Польшчы, Славакіі і Чэхіі. Міністры правядуць таксама сустрэчы з Вярхоўным прадстаўніком Еўрасаюза па замежнай палітыцы Кэтрын Эштан і камісарам ЕС па пашырэнні і палітыцы еўрапейскага суседства Штэфанам Фюле. Беларускаму міністру такія кантакты не патрэбныя?..

### ДАРЭЧЫ

### Макей не паехаў у ЗША

За апошнія дні гэта другі прэцэдэнт, калі Уладзімір Макей збіраецца рушыць на Захад, але ў выніку нікуды не едзе. Так, планаваўся візіт кіраўніка беларускага знешнепалітычнага ведамства ў Нью-Ёрк для ўдзелу ў мерапрыемствах, якія праводзіць ААН. Як вядома, на такія паездкі візавыя абмежаванні не распаўсюджваюцца. Неафіцыйна вядома, што беларускі бок спадзяваўся на тое, што ў ЗША ў Макея адбудуцца не толькі ААНаўскія сустрэчы. Але ў выніку паездка міністра была адменена.

АСАБІСТАЯ СПРАВА

## Хто такая Алена Купчына?

*Гэта пытанне ўсё часцей і часцей задаюць сабе і палітыкі, і тыя, хто ўважліва сочыць за беларускай палітыкай на заходнім накірунку. Справа ў тым, што менавіта спадарыня Купчына апошнім часам стала, так бы мовіць, тварам Беларусі на беларуска-еўрапейскіх перамовах самага рознага ўзроўню.*



Алена Мікалаеўна Купчына працуе намеснікам міністра замежных спраў усяго год. У сістэме МЗС — з 1992 года. Пачынала другім сакратаром дагаворна-прававога упраўлення. Доўгі час у МЗС займалася праблемамі гуманітарнага, экалагічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва. Праўда, нельга сказаць, што пад яе кіраўніцтвам гэта супрацоўніцтва квітнела — хутчэй зварочвалася.

З 2006-га па 20012 год была Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Беларусі ў Венгрыі і Славакіі (па сумяшчальніцтве).

Алена Купчына нарадзілася ў 1965 годзе. Па адукацыі — юрыст, прычым юрыдычны факультэт БДУ скончыла "з адзнакай". У 1991 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю.

ЭКАНОМІКА

## Кароў прапаганда не загітавала

*Вот жа бывае! Усё так добра ў краіне, але каровы пра гэта не ведаюць, не дояцца.*

Па выніках першага квартала 2013 года ў большасці раёнаў Беларусі і ва ўсіх абласцях адбылося прыкметнае зніжэнне сярэдняга надою малака ад каровы. У цэлым па краіне гэты паказчык скараціўся на 33 кілаграмы.

Па інфармацыі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, рост па надоях паказалі толькі гаспадаркі Іванаўскага раёна. А вось Нясвіжскі, Бераставіцкі, Гродзенскі, Смалявіцкі, Дзяржынскі, Брэсцкі, Клецкі, Слуцкі, Мінскі раёны "мінусавалі" асабліва значна. Так, у Дзяржынскім раёне не далічыліся 56 кілаграмаў малака ад каровы, у Клецкім — мінус 115 кг, у Слуцкім — мінус 99... Па Мінскай вобласці, у якую ўваходзяць гэтыя раёны, "мінус" склаў 62 кг з каровы. Больш толькі на Магілёўшчыне, дзе прадукцыйнасць упала на 67 кілаграмаў. Дарэчы, абсалютны антылідар па гэтым паказчыку аказаўся менавіта на Магілёўшчыне. Гэта... Шклоўскі раён. Надоі ў гаспадарках на радзіме кіраўніка дзяржавы ў першыя тры месяцы гэтага года скараціліся на 272 кг з разліку на карову.

**Алег СНОЎ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Схапілі. Судзілі

Дзікунская гісторыя! Нашы калегі Дзмітрый Галко і Аляксандр Ярашэвіч усе майскія святы правялі ў ізалятары на вуліцы Акрэсціна.

Дзмітрыя Галко апошні раз мы бачылі 6 мая. Дзіма — вядомы чытачам "Народнай Волі" аўтар — прыйшоў у рэдакцыю атрымаць ганарар, пагутарылі-пасмяяліся і далей ён накіраваўся да ізалятара на Акрэсціна. У той дзень выходзілі на волю тыя, хто немаведама за што быў асуджаны пасля дазволенай акцыі "Чарнобыльскі Шлях". Сябры, актывісты, журналісты іх сустракалі... Сустрэлі. А пасля гэтага, ужо ля станцыі метро "Міхалова", былі затрыманы Галко і Ярашэвіч. Як пазней высветлілася ў судзе, за непадпарадкаванне міліцыі і дробнае хуліганства. Абвінавачванні — да зубнога скрыгатання звычайныя. І што б ты ні рабіў, як бы ні даказваў сваю невінаватасць, але міліцыянер засведчыць, што нямы лаяўся матам — і суд прыме гэтыя словы на веру.



Як сведчыць прэс-сакратар ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Барыс Гарэцкі, якому дазволілі прысутнічаць на судзе, міліцыянер проста прызнаў, што фактычна адзін з пратаколаў затрымання быў сфальсіфікаваны. Што ён уносіў у дакумент змены ўжо пасля таго, як пратакол быў складзены зусім іншымі людзьмі.

Тым не менш свае "суткі" журналісты атрымалі. Хаця, акрамя міліцыянераў, ніякіх сведкаў "супрацьпраўных дзеянняў" нашых калег не знайшлося.

Суддзі Таццяна Мотыль і Яўген Хаткевіч вырашылі не задаваць лішніх пытанняў ні сабе, ні міліцыянерам. І "выпісалі" 10 сутак арышту Дзмітрыю Галко і 12 сутак Аляксандру Ярашэвічу. А пасля гэтага, напэўна, са спакойнай душой пайшлі гуляць святы. Ці ўсё ж такі не са спакойнай?..

Інфармацыю з першых вуснаў пра тое, што адбылося, а таксама звесткі пра ўдзельнікаў "аперацыі" і іх куклаводаў, меркаванні юрыстаў, іншых спецыялістаў наконт таго, як супрацьстаяць такой з'яве, як нематываваныя арышты і затрыманні, мы спадзяёмся прадставіць чытачам "Народнай Волі" ўжо ў наступных нумарах. Дзмітрыя Галко павінны былі вызваліць учора ў 21 гадзіну, якраз тады, калі гэты нумар газеты быў у друкарні. Спадзяёмся, што ніякага форс-мажору не здарылася і, як запланавана, ужо сёння раніцай у рэдакцыі "Народнай Волі" адбудзецца ўсебаковае абмеркаванне гэтай тэмы.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

З-ЗА КРАТАЎ

## Подых свабоды

*Палітычны вязень Аляксандр Францкевіч 6 верасня мусіць выйсці на волю.*

Палітзняволенаму, які адбывае трохгадовае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі пад умоўнай назвай "Ваўчыныя норы", некалькі дзён таму споўнілася 23 гады. У гэты ж дзень яго наведаў і адвакат. Паводле слоў абаронцы, Аляксандр трымаецца годна і мае добры настрой. Вязню паказалі ўжо дакумент пра вызваленне.

Анархіста Аляксандра Францкевіча арыштавалі ў верасні 2010 года, абвінавацілі ва ўдзеле ў нападах на афіцыйныя будынкі і пакаралі трыма гадамі зняволення. Сваёй віны ён не прызнаў. Праваабаронцы прызналі Францкевіча палітычным зняволеным і патрабуюць яго неадкладнага вызвалення.

## Ад званка да званка

*Палітыку Паўлу Севярынцу фармальна таксама застаецца не такі ўжо вялікі тэрмін адбывання пакарання. Але яму пра хуткае вызваленне пакуль не гавораць.*

"Абмінаюць гэтую тэму, — расказаў Севярынец. — Тэрмін у мяне заканчваецца праз пяць месяцаў, 19 кастрычніка".

Нагадаем, што паплечнік і сябар Севярынца Зміцер Дашкевіч павінен быў выйсці на волю яшчэ ў мінулым годзе, але тэрмін пакарання яму "дадалі" нібыта за парушэнні рэжыму. Таму, нават маючы на руках і прысуд, і каляндар, у нашай краіне ні ў чым нельга быць упэўненым. Аднак у любым выпадку можна гаварыць пра тое, што забойцаў і зладзеяў масава вызваляюць умоўна-датэрмінова. А вось інтэлігентны, адукаваны, прыстойны хлопец Павел Севярынец вымушаны адбываць тэрмін, як кажуць, ад званка да званка.

Павел Севярынец быў асуджаны на 3 гады "хіміі" за ўдзел у мітынгу пратэсту супраць вынікаў апошніх прэзідэнцкіх выбараў. Пакаранне адбывае ў спецкамендатуры "Куплін" (Пружанскі раён).

АТОМНЫЙ ПРОЕКТ

## Начали...

Волгодонский "Атоммаш" начинает работу по созданию двух реакторов для Белорусской АЭС.

Об этом сообщают российские СМИ со ссылкой на директора по производству "Атоммаша" Виталия Шишова.

*"Все оборудование завода, которое было предназначено для производства атомного оборудования, модернизировано и вновь запущено в эксплуатацию",* — подчеркнул Виталий Шишов.

Господин Шишов утверждает, что, хотя последний реактор был выпущен на "Атоммаше" в 1986 году, все эти годы на заводе продолжалось производство атомного оборудования и поддерживалась необходимая для этого квалификация. При этом Виталий Шишов признал, что построенный в советское время "Атоммаш" должен был производить 8 реакторных комплектов в год, однако после чернобыльской аварии производство реакторов было полностью прекращено. Фактически предприятие начинает подниматься только сейчас — на заказе по строительству двух реакторов для Белорусской АЭС и одного для Балтийской АЭС в Калининграде. Россиян это, безусловно, радует. Белорусов, мягко говоря, настораживает.

"Народная Воля" в настоящее время ведет переговоры с руководством волгодонского "Атоммаша", чтобы нашему журналисту была предоставлена возможность побывать на предприятии, увидеть все своими глазами, встретиться и поговорить со специалистами. Предварительная договоренность об этом достигнута. Поэтому надеемся, что в ближайшее время наши читатели смогут прочитать репортажи из Волгодонска, с завода, от специалистов которого сейчас зависят наши с вами безопасность и жизни.

**Ирина МАЛЬЦЕВА.**

## Заява Сойма КХП — БНФ

У сувязі са з'яўленнем інфармацыі пра размяшчэнне расійскай ваеннай базы ў Беларусі Сойм Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ прыняў спецыяльную заяву. У ёй гаворыцца:

"Змова А.Лукашэнкі і кіраўніцтва Расіі аб стварэнні ў Беларусі пад Баранавічамі расійскай ваеннай базы знішчальнай і стратэгічнай авіяцыі супярэчыць карэнным нацыянальным інтарэсам беларускага народа, з'яўляецца антыканстытуцыйным рашэннем, адчыняе дарогу да ваеннай акупацыі Беларусі.

Кіраўніцтва ўлады, якое прымае такое антынацыянальнае рашэнне, нясе адказнасць перад народам Беларусі па самым высокім кошце. Чужыя ваенныя базы не павінны існаваць на тэрыторыі нашай Айчыны".

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Дарагая цацка

*Чарговы пралёт зборнай Беларусі па хакеі на чэмпіянаце свету вельмі сімвалічны. Насамрэч — гэта люстэрка беларускай рэальнасці.*

**Беларускія хакеісты — за стабільнасць! Вось ужо трэці год запар каманда займае на чэмпіянатах свету ганебнае 14-е месца. Ганебнае нават не таму, што каманда не трапляе ў васьмёрку мацнейшых, што яшчэ не так даўно было нормай. Мы проста застылі ў сваім развіцці.**

**Што ж адбываецца з беларускім хакеем? Як мне падаецца, яго проста разбэсцілі. Разбэсцілі вялікімі грашыма, непамернымі заробкамі...**

**З лёгкай рукі высокіх асоб краіны хакей стаў фаварытам сярод іншых відаў спорту. У хакей пайшлі такія фінансавыя ручаі, што вам і не сніліся. Напрыклад, віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік адносна не так даўно абураўся: *"Я разумею, што заробкі ў клубах, якія самі сябе забяспечваюць, могуць быць высокімі альбо нават вельмі высокімі. Але, выкарыстоўваючы датацыі ці льготную дапамогу, атрымліваць па 420 мільёнаў у месяц — гэта, на мой погляд, знаходзіцца за межамі здаровага сэнсу. Такі сярэдні заробак у мінскім "Дынама".***

**Вось і мне цікава: за што ў "Дынама" хакеісты атрымліваюць па 50 тысяч долараў у месяц? Кубак Гагарына выйгралі? "Зорак" для зборнай падрыхтавалі? Выйшлі на самаакупнасць? Ды не. "Беларуськалій" грошы дае, хтосьці яшчэ... Гэта, як крэдыты ад Расіі. Чаму б не браць, калі даюць.**

**Памятаю, у 90-х гадах мы сядзелі ў кафэ гасцініцы "Мінск" з хакеістамі мінскага "Цівалі" і зборнай Беларусі. Загаварылі пра заробкі. І высветлілася, што зарплата хакеістаў не нашмат адрозніваецца ад маёй.**

**Але якія раней былі імёны! Руслан Салей, Андрэй Скабелка, Аляксандр Андрыеўскі, Сяргей Шыткоўскі, Эдуард Занкавец, Алег Хмыль...**

**Як расказваў былы віцэ-прэзідэнт Федэрацыі хакея Беларусі Уладзімір Беражкоў, у 1997 годзе зборнай за выхад на Алімпіяду былі гарантаваны прэміяльныя ў памеры 10 тысяч долараў. На ўсю каманду! А сёння ігракі сярэдняга класа чэмпіянату Беларусі атрымліваюць да 5 тысяч долараў у месяц. Якая матывацыя ім яшчэ патрэбна? На хлеб з маслам хопіць. Іх да гэтага ўжо прывучылі.**

**Дарэчы, па словах таго ж Беражкова, у Амерыцы сістэма збудавана такім чынам, што хакеісту забяспечваюць усе ўмовы для таго, каб ён рос як спартсмен. Даюць яму форму, ежу, лёд, каляндар. Гэта чатыры кіты, на якіх трымаецца падрыхтоўка хакеіста. А вось зарплата — прабачце. Зарплату ты атрымаеш тады, калі пачнеш нешта з сябе ўяўляць як брэнд, як імя. Да гэтага часу ты расцеш. І калі не атрымалася, нічога страшнага, ты ідзеш у іншыя сферы жыцця. Таму на Захадзе многія маладыя хакеісты, якім не дапамагаюць бацькі, развозяць піцу, сушы, працуюць паштальёнамі, цырульнікамі і не саромеюцца гэтага. У нас жа выпускнікі спартыўных школ, якія і блізка не падышлі да ўзроўню школы "Юнацтва" часоў Савецкага Саюза, аўтаматычна трапляюць у вышэйшую лігу ці экстралігу, іх павінны ледзьве не адразу забяспечыць работай і даць мінімум 500—1000 долараў зарплаты.**

**Калі даюць, чаму б не браць! Паведамлялася, напрыклад, што ўсяго некалькі гадоў назад на клубны хакей (без уліку зборнай, асноўных фондаў, новых лядовых палацаў) пайшло каля 70 мільёнаў долараў. А вось дзіцячыя трэнеры атрымліваюць у сярэднім заробак — 2,5—3 мільёны рублёў. Гэта афіцыйная інфармацыя Федэрацыі хакея. І нехта хоча, каб зборная паказвала вынік? Адкуль брацца юным талентам? Хто за такія грошы будзе сур'ёзна працаваць? Няцяжка падлічыць: калі дзіцячы трэнер мае ў месяц 2 мільёны 500 тысяч рублёў, то, каб атрымаць сярэднямесячны дынамаўскі заробак, яму трэба працаваць 14 гадоў. Але хто думае пра таго дзіцячага трэнера?**



**Адным словам, хакей у нас ператварыўся ў дарагую цацку. І ўсё патрабуюць: "Даеш вынік! Трэба лавіць зубамі шайбу!" Нейкая светлая дзяржаўная галава нават паставіла для беларускай зборнай задачу на чэмпіянат свету 2014 года, які пройдзе ў Мінску, — увайсці ў тройку прызёраў.**

**Прачніцеся! Беларускі хакей сёння хворы. Пацыенту неабходна рэанімацыя...**

**Алесь СІВЫ.**

ЦИФРЫ СВИДЕТЕЛЬСТВУЮТ...

## Кому и куда?

*Мы часто слышим, что белорусская продукция продается во все страны мира.*

*Мы часто слышим, что у проходных наших заводов — очереди желающих приобрести белорусские трактора, станки, автомобили.*

*Нас убеждают, что белорусская экономика работает по самым высоким мировым стандартам. И что сотрудничество с той же далекой Венесуэлой — выгодное и масштабное.*

*Но лозунги — лозунгами, а о чем говорят цифры?*

*"Народная Воля" решила выяснить, куда Беларусь продавала в этом году тракторы и автомобили. Вот некоторые официальные данные по итогам января—февраля.*

| | СНГ | РФ | ЕС | Другие страны |
|---|---|---|---|---|
| Тракторы и седельные тягачи | 2130 | 6158 | 564 | 610 |
| Автомобили грузовые | 124 | 624 | 9 | 115 |
| Автомобили-самосвалы, предназначенные для эксплуатации в условиях бездорожья (Амкодор) | 8 | 147 | 4 | 4 |
| Грузовики не более 5 тонн | 2 | 27 | 1 | 3 |
| Грузовики не более 20 тонн | 33 | 248 | 2 | 1 |
| Грузовики более 20 тонн | 81 | 202 | 1 | 22 |
| Автомобили специального назначения | 75 | 44 | 0 | 5 |

Слепому видно, что львиная доля продукции белорусского автопрома ушла именно в Россию. Может, причина в том, что советская техника больше не может конкурировать с современными собратьями? Не потому ли администрации некогда брэндовых предприятий на вопрос о реализации своей продукции скромно ссылаются на коммерческую тайну? Но заводы тем не менее работают, техники вокруг них становится все больше и больше, несмотря на официальные рапорты о том, что все не так плохо, как кажется...

**Любовь ЛУНЕВА.**

### КСТАТИ

**Данные Белстата опровергают некоторые упорно вбиваемые в нашу голову мифы. Например, о масштабном сотрудничестве с Венесуэлой. Так, по разделу "Тракторы и седельные тягачи" значатся всего три единицы техники за январь—февраль. А ведь сколько было рассказов о том, как МТЗ покорил этот далекий рынок!**

ЧУЛІ?

## Да чужых — шчодрыя

*Дэфіцыт высокакваліфікаваных кадраў і нізкая падрыхтоўка спецыялістаў у ВНУ вымушаюць беларускія ўлады раскашэліцца на дарагіх замежных выкладчыкаў.*

Урад пастановай №362 зацвердзіў парадак і памеры ўзнагароджання замежным спецыялістам, якіх будуць запрашаць дзяржаўныя ВНУ. Дакумент вызначае: "Усталяваць стаўку пагадзіннай аплаты працы замежным спецыялістам ... у памеры да 300 працэнтаў (уключна) тарыфнай стаўкі першага разраду". Сёння тарыфная стаўка першага разраду складае 250 тысяч рублёў. Такім чынам, максімальнае ўзнагароджанне за гадзіну працы замежнаму выкладчыку можа даходзіць да 750 тысяч рублёў (каля 86 долараў ЗША).

Акрамя гэтага, улады дазволілі аплачваць запрошаным выкладчыкам выдаткі на дарогу ў Беларусь і назад, выдаткі на грамадскі транспарт ўнутры краіны (акрамя таксі), а таксама пражыванне ў межах кошту аднамеснага нумара першага разраду гасцініцы першай катэгорыі. Прычым аплачваць будуць не ВНУ: фінансаванне ўсіх пералічаных выдаткаў "ажыццяўляецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, прадугледжаных на рэалізацыю Дзяржаўнай праграмы развіцця вышэйшай адукацыі на 2011—2015 гады".

Аднак нельга не адзначыць, што прапанаваныя бонусы з'яўляюцца стандартнай нормай у сучасным свеце, а максімальная стаўка аплаты — не такой высокай лічбай, якая прыцягне ўвагу замежных аўтарытэтаў. Так што калі і паедуць яны да нас, то далёка не лепшыя. Што ставіць пад сумнеў сэнс усёй задумы. Можа, лепш было б павысіць заробкі мясцовым выкладчыкам, якія шукаюць працу ў прыватным сектары або проста з'язджаюць з краіны.

**Алена ДАВЫДАВА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
17 МАЯ 2013 г.

ОТКРОВЕННЫЙ РАЗГОВОР

*Наталья ШУЛЬГА:*

# «Делиться мозгами за кусок хлеба или дешевой колбасы долго никто не будет»

*Наталья Шульга — кандидат химических наук. В конце 2011 года на страницах "Народной Воли" она включилась в дискуссию о реформировании белорусской науки. Ее публикация "Чего не могут понять наши "рулевые" была не просто смелой — сенсационной. Наталья не побоялась заговорить о том, что белорусская наука погрязла в коррупции, что нередко должности, звания и участие в высокобюджетных проектах получают сотрудники с "нужными" фамилиями.*

*Сегодня, когда дискуссия вокруг реформирования научной отрасли зазвучала с новой силой, Наталья Шульга снова не осталась в стороне и присоединилась к обсуждению.*



**— Наталья, в последнее время часто говорят о проблемах белорусской науки, ее низкой эффективности, предлагают что-то реформировать, объединить, избавиться от громоздкого и неповоротливого Президиума. На ваш взгляд, это поможет?**

— Едва ли. Но сначала об эффективности.

Наука — не дойная корова-рекордистка, а тяжкий кропотливый труд, плодами которого смогут воспользоваться, возможно, только наши потомки. К тому же в науке есть и тупиковые работы. Но порой их необходимо сделать, чтобы понять ошибки и больше туда не возвращаться. Есть фундаментальные работы, без которых невозможно двигаться вперед. Они — основа будущих технологий. Есть работы, которые опережают свое время. Не вина ученого, что его мозги устроены именно так. Его идеи могут быть непонятны, их запросто могут выбросить в мусорную корзину. Как пример — французский математик Галуа. Новизну и важность его работы признали только через полвека после смерти двадцатилетнего автора. Столько времени понадобилось титулованным ценителям, чтобы дозреть и понять новаторские идеи студента-бунтаря. Фактически сменилось поколение.

В свое время в Германии не нашлось места Леонарду Эйлеру, поэтому он известен как русский математик. Периодическая таблица элементов — это ведь фундаментальная работа, а вот менделеевские эксперименты с этиловым спиртом — это уже практика с большими деньгами для казны. Вопрос только, что все-таки важнее для государства, науки и человечества. И последнее. Не будет настоящих ученых — не будет талантливых педагогов. Нигде. Ни в школах, ни в вузах.

А что касается Президиума Академии наук, то в случае его упразднения, чего при моей жизни точно не случится, его обитатели тихо и плавно перетекут в другие удобные кресла. И все останется там, где стояло. Проблема не в Президиуме, хотя, по слухам, это руководяще-контролирующее удовольствие обходится дорого во всех отношениях. Проблема, скорее, в базисе. Все разумные люди это осознают, но по понятным причинам стараются обойти эту тему или крутятся вокруг да около. А сказать открыто боятся.

Административная система сама по себе не может быть серьезно заинтересована в решении каких-либо проблем. Ее цель — тотальный контроль с перераспределением благ и бесконечным приближением к решению вопроса или имитацией поиска решения при близкой к нулю персональной ответственности за результат. Это известное условие безбедного существования чиновничества как класса во всем мире и во все времена. Ничего нового мы не придумали и не построили. При отсутствии гласности и прозрачности разбухшая бюрократическая система неэффективна по определению. Аппетиты растут как на дрожжах вместе с числом желающих кем-нибудь руководить, что-нибудь определять и распределять или просто не слишком напрягаться. А если глубже, то проблема, на мой взгляд, в природной сущности человека, возможно, в его жадности, часто патологической. Мало у кого хватает сил эту жадность в себе обуздать. Когда тормозов нет, красных флажков нет, сверху и сбоку на все закрывают глаза, а у свидетелей с нижних этажей во рту огромный контрактный кляп, результат не заставит себя долго ждать. Для любого дела это смертельно, и наука не может быть исключением.

Не подумайте, что я призываю к бедности. Ученые, как и все работающие люди, не должны голодать, 20 лет ходить в одном пальто или ютиться в общагах. Как не должен кандидат наук, преподаватель физической химии на факультете фармакологии Медицинского университета, при таком количестве студентов-платников и баснословной стоимости их обучения растить будущих специалистов за месячную зарплату в 250—300 долларов. Иначе желающих заниматься подобным альтруизмом, как и оплачивать сомнительное образование, скоро не будет.

Государственные мужи обязаны думать о будущем, если они не хотят превратить собственный народ в полуграмотное стадо. Правда, пока узкий круг людей на местах решает, кто по их понятиям является настоящим ученым и заслуживает достойной жизни, а кому следует только лишь предоставить право много и честно работать за возможность существовать, то даже при огромных вложениях в науку, все потихонечку будет разваливаться. Человека можно под страхом голодной смерти заставить копать канавы, мыть общественные туалеты или выполнять другую работу, не требующую интеллектуальных усилий. Не нам бегать за примерами. Но делиться мозгами за кусок хлеба или дешевой колбасы долго никто не будет.

**— Вы не первый раз так смело высказываете свое мнение. Не опасаетесь, что руководство может не простить такую, я бы сказала, дерзость?**

— Я живу по принципу: делай, что должно, и будь что будет. Уборщик или торговка могут быть обывателями, ученый обязан быть Гражданином.

Кстати, мой последний бюджетный контракт заканчивался 30 апреля 2012 года. За месяц до этого меня уведомили о расторжении трудовых отношений. Безусловно, причиной столь срочного "изгнания" был мой публичный протест против существующего положения вещей в белорусской науке. Хотя уверена: первоначально мое увольнение на ближайшее десятилетие вообще не входило в планы администрации. Качественная и дешевая научная рабсила, это, знаете ли, выгодно во всех отношениях. Впаять мне служебное несоответствие — это из области фантастики. Тем более что я всего лишь старший научный сотрудник, да и получила эту должность к юбилейной дате — двадцатипятилетию присвоения мне ученой степени кандидата наук. До той поры сидела в научных сотрудниках, среди которых, кстати, много лет была единственным человеком с ученой степенью. Обстоятельства вынудили моих руководителей расщедриться. Нужно было браться за новую разработку, а крупного заказчика не устраивал исполнитель с таким низким статусом.

Однако увольнение не состоялось по двум причинам. Неожиданно меня поддержали люди, от которых я никогда такого подвига не ожидала. К тому же у меня достаточно узкая специализация. Сегодня хорошую уборщицу найти нелегко, тем более — химика. В итоге со мной подписали трудовое соглашение до конца 2012 года. Мне тогда не очень стыдно было называть размер своей зарплаты хотя бы на территории Республики Беларусь. Из бюджета Академии я не брала ни копейки и научную работу продолжала, хоть и уделяла ей меньше времени, чем хотелось бы.

**— И что это была за научная работа? Какие обязательства?**

— Из обязательств — разработка пакета документов, необходимых для производства сложных удобрений. Что касается научной работы, то на сегодняшний день — это альтернативные способы переработки фосфатного сырья в удобрения, а также некоторые тонкости физико-химического анализа природных фосфатов и полученных из них продуктов. Моя основная специальность — физическая химия. Если более конкретно, то твердофазные реакции с участием неорганических фосфатов. Но это сложная тема, интересная, пожалуй, только узким специалистам, которых в современной Беларуси фактически не осталось. В свое время нашу научную лабораторию, на мой взгляд, когда-то одну из лучших, раздробили и фактически ликвидировали. Сейчас дорабатывают последние из могикан. Фосфатную тематику не закрыли, просто вместе с деньгами подбросили "своим" людям, чтобы те не бедствовали в материальном плане. В итоге получили воинствующий дилетантизм. А ведь плохая химия — это не плохой стишок. Может не хватить времени, чтобы удрать.

**— Не жалеете, что связали свою жизнь с белорусской наукой и обрекли себя на весьма скромное существование?**

— Нет. Каждый несет свой крест и каждому воздастся по его делам. В гробу карманов нет. А свой выбор я сделала раньше, чем была построена нынешняя "уникальная" модель. Впрочем, и тогда были похожие проблемы, просто они не достигли такого абсурда. Бессрочная система найма работников, гарантированный, вполне достойный, но ограниченный доход, возможность роста для человека, работающего продуктивно, действенный механизм поставить на место потерявших совесть, открытые регулярные семинары, где не боялись задавать неудобные вопросы, а ум или тупость были у всех на виду — все это позволяло подниматься способным, пусть себе бедным и безродным ученым. Сейчас с таким вариантом я не сталкиваюсь, хотя отрицать возможность подобного чуда не стану. Я не имею в виду защиту кандидатских диссертаций. Это мелочь, жизненная необходимость, для "рулевых" прежде всего в силу некоторых причин. Слабенькие эти диссертации, как правило, и с большим количеством непростительных ошибок.

...Растят сегодняшние "научные руководители" смену, как понимают и как умеют. Хотя и растить уже некого. Умные молодые люди быстро ориентируются и бегут от науки куда подальше, в интеллектуалы с правами крепостных не рвутся. Живем в каком-то безумии. Одни теряют голову от шальных легких денег, другие — их подавляющее большинство — прозябают в бедности и безысходности. Остается надеяться, что однажды из этого нравственного тупика мы вырвемся, и все встанет на свои места. Ведь по сути своей система бесплодна, а перемены неизбежны, если хотим выжить как народ. Вопрос только в том, в каком состоянии мы к этим переменам подойдем и что успеем спасти.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ДЫПКУР'ЕР

## Французская амбасада спыняе выдачу іспанскіх віз

*Рэгістрацыя на падачу дакументаў у французскую амбасаду для паездкі ў Іспанію спыняецца з 30 мая.*

У сувязі са сканчэннем пагаднення па дэлегаванні правоў на выдачу віз у Іспанію Амбасадай Францыі ў Рэспубліцы Беларусь рэгістрацыя на падачу дакументаў для паездкі ў Іспанію гэтым дыппрадстаўніцтвам спыняецца. З 30 чэрвеня 2013 года выдача віз для паездкі ў Іспанію Амбасадай Францыі ў Рэспубліцы Беларусь цалкам адмяняецца.

Аднак у Мінску павінен у бліжэйшы час адкрыцца іспанскі візавы цэнтр, які будзе працаваць пад каардынацыяй Амбасады Іспаніі ў Маскве. Ужо вядомы адрас, дзе ён размесціцца, — вуліца Інтэрнацыянальная, 11. Але вось час адкрыцця пакуль невядомы.

ПЕРАПІСКА

## Мінадукацыі не згодна

*Міністэрства адукацыі адмовілася прывязваць плату за навучанне да інфляцыі. Такі адказ атрымалі ініцыятары кампаніі "За стабільную аплату навучання".*

Нагадаем, што студэнты прапануюць прывязаць аплату за навучанне да інфляцыі і змяняць яе ўзровень толькі раз на год. У адказе на іх зварот чыноўнікі сцвярджаюць, што такая прывязка немагчыма. Бо змена выдаткаў на навучанне знаходзіцца ў залежнасці ад змянення ўмоў аплаты працы выкладчыкаў і работнікаў установ адукацыі, у тым ліку змены тарыфнай стаўкі першага разраду.

І ўсё ж ініцыятары кампаніі па стрыманнb росту коштаў на навучанне лічаць, што дамагліся пэўных поспехаў. Яны нагадваюць, што ў сёлетнім красавіку мусіў адбыцца пераразлік аплаты за навучанне. Аднак не адбыўся.

СПАДЧЫНА

## Вёска Папшыцы: абрад, якога няма нідзе

*19 мая ў вёсцы Папшыцы Глыбоцкага раёна адбудзецца ўнікальная падзея — абрад нясення наміткі.*

Як кажа ксёндз Віктар Місевіч, свята нясення наміткі звязана са знакавай падзеяй: некалькі сотняў год таму людзі ў гэтым рэгіёне былі цудоўным чынам уратаваны ад цяжкай хваробы, па некаторых звестках — ад халеры.

— Калісьці намітку, гэта значыць палатно, ткалі людзі самі спецыяльна для гэтага свята і неслі ва ўрачыстай працэсіі да святыні, дзе адбывалася пазней імша, і людзі дзякавалі Богу за ўратаванне сваіх продкаў і прасілі Божага благаслаўлення да саміх сябе. Сёння тканіну людзі ўжо не ткуць, купляюць яе ў магазіне і таксама ўрачыста нясуць у працэсіі.

Навукоўцы краязнаўчых інстытутаў з Мінска будуць займацца спецыялізаваным зборам інфармацыі пра абрад нясення наміткі на Глыбоччыне. Гэты каталіцкі абрад прэтэндуе на ўнясенне ў спіс нематэрыяльных каштоўнасцей Беларусі.

## Хуткамоўкі ад Барадуліна

Рыгор Барадулін напісаў кнігу беларускіх хуткамовак. Да гэтага нічога падобнага ў нас не было. Кніга называецца "Воз вёз лёс":

Зразумела, што сама назва — гэта і ёсць хуткамоўка. А яшчэ: "Ёрш сагрэць спрабуе лёд. Апякае палец ёд", "Пабег бы ў гай бугай па рог, ды зачапіўся за парог", "Прывезла скнара сыр з Сыктыўкара", "Ходзячы па сцежках босых, збіў абцасы часу посах", "Міла мяла мяты пачак. Мяў мядзведзь, як мякіш, мячык", "У пчаляра каля чала кружыцца пачала пчала", "Варона ляцела ў Верону. Ці чакала Верона варону..."

РЭГІЁНЫ

## У вёсцы — драпежнік!

Гаспадары прыватных падворкаў у шоку — на Брэсчыне з'явіўся невядомы драпежнік.

У адной толькі вёсцы Зёлава Драгічынскага раёна звер загрыз больш за дзясятак жывёл. Яго не спыняюць ні платы, ні ўмацаваныя дзверы. Мясцовыя жыхары баяцца ўжо не толькі за скаціну — страшна за сваё жыццё. Увечары і тым больш уначы вяскоўцы асцерагаюцца выходзіць на двор. Ад кіпцюроў і зубоў драпежніка загінулі ўжо некалькі коз, індык, трус.

Апетыты ў невядомага звера сур'ёзныя — у вёсцы Задворцы Брэсцкага раёна загінулі больш за 20 трусоў і некалькі катоў.

Паляўнічыя і эколагі ў містычнае паходжанне драпежніка не вераць. Дакладна вядома, што гэта не воўк, а вось адзічэлы сабака мог бы нарабіць бяды.

Кім бы ні быў невядомы злодзей, піраваць яму засталося нядоўга. У бліжэйшы час на драпежніка наладзяць паляванне.

## Грошы на «Дываны Брэста» заманьваюць абярэгамі

Насупраць ўвахода ў галоўны будынак кампаніі паставілі старадаўні калаўрот. Кажуць, ён прыносіць грошы...

Тое, што з грашыма на прадпрыемстве праблемы, ведае, мусіць, кожны беларус. Даведзеныя да адчаю супрацоўніцы "Брэсцкіх дываноў" на ўсю краіну распавялі аб сваіх мізэрных заробках.

Новае кіраўніцтва намагаецца выправіць сітуацыю, але не ўсё так проста. Можа, старадаўнія традыцыі не зашкодзяць?

"*Нашы продкі лічылі такія станкі не проста прыладай працы*, — распавёў bvn.by намеснік генеральнага дырэктара па бяспецы вытворчасці **Мікалай Бойка**. — *А абярэгам дома, які забяспечваў дабрабыт і фінансавую стабільнасць сям'і*".

У будучым у "Брэсцкіх дываноў" з'явіцца ўласны музей, дзе драўляныя калаўроты займуць пачэснае месца.

SOS!

# Забыццё-запусценне ў капыльскай Хатыні...

*Жавалкі, Масявічы, Вялікія Прусы, Калодзезнае — "вогненныя" вёскі на Капыльшчыне, якія паўтарылі лёс Хатыні.*

*Хатынская трагедыя вядамая ўсяму свету, там дзяржаўны мемарыяльны комплекс у памяць пра бязвінна загінуўшых людзях. І туды — на месца былой вёскі, да жалобнага мемарыялу, падноўленага і дагледжанага — едуць людзі з усяго свету: каб пакланіцца ахвярам ваеннай калатнечы, услухацца ў званы памяці, якія бомкаюць не толькі па 149 спаленых хатынцах, але і па ўсіх беларусах, што паўтарылі іх трагічны лёс. Тыя званы адно рэхам адгукаюцца ў Калодзезным, толькі рэхам... А павінны ж былі гучаць — голасам тугі і жальбы — на ўсю капыльскую зямлю, працінаючы душы жывых. Бо прамоўлена: гэта трэба не мёртвым — гэта трэба жывым...*



Але пакуль на Калодзезным "могілкавым кладбішчы" поўнае запусценне... Які там мемарыял, калі ў мясцовай улады не знайшлося сродкаў нават... на просценькую агароджу?!. Пра якія Званы памяці можна казаць, калі чыноўнікі зацята валтузяцца з чалавекам, які намерыўся тую памяць увасобіць спракавечна-хрысціянскім — дагледзець апошняе месца спачыну 213 вяскоўцаў, спаленых і забітых 9 лютага 1943 года?!.

Сярод тых 213 ахвяр і родныя Віктара Дашкевіча — бабуля, родныя цёткі, дзядзькі... Пад пахілымі магільнымі плітамі — цэлая вёска: жанчыны, старыя, дзеці... Да вайны Калодзезнае было шматлюдным паселішчам, не тое, што цяпер — некалькі хат-развалюх ды столькі ж пенсіянераў. Толькі на Радуніцу ды 9 лютага — у дзень трагедыі — сюды з'язджаюцца людзі: жменька тых, хто ўцалеў у далёкім 43-м ды родзічы, хто яшчэ не страціў памяці і сумлення... Сёлета якраз 70-годдзе з тае трагічнае даты. І гэта, бадай, усё, што мне было вядома перад вандроўкай у Калодзезнае — яно на паўдарозе паміж Капылём і Нясвіжам.

Спыняюся на скрыжаванні шасейкі і адзінай вясковай вуліцы. Якраз у гэтым месцы, пры самай дарозе — помнік салдату-вызваліцелю і... прыстыкаваная да яго мемарыяльная пліта з імёнамі загінуўшых вяскоўцаў. Імгненна праціная думка: якая сувязь паміж воінам-вызваліцелем і трагедыяй колішніх вяскоўцаў? Мусіць жа быць зусім іншая скульптурная выява... Але кірую далей, у напрамку аселіцы — там (па словах Віктара Дашкевіча) пахаваны ягоныя землякі з далёкага 43-га.... У самым канцы вуліцы, за якія дваццаць крокаў ад апошняй хаткі, тыя могілкі. Прыехаў у момант, калі Віктар з купкай маладзёнаў (сябры Беларускага саюза моладзі) прыбіралі хмыз, патрушчаныя паўгнілыя аскепы старога плоту, зносілі ўсё ў "брацкую" кучу, каб потым спаліць ці вывезці куды падалей. Што кінулася ў вочы?

Могілкі на выспе невялікія, але страшэнна запушчаныя, бо ні дарожак-сцяжынак, ні варот, ні брамак, на ладнай агароджы. Да ўсяго яшчэ — і парослыя дзікім кустоўем, а над тым кустоўем — высозныя старыя дрэвы з разлапістымі галінамі, гатовымі — пры добрым ветрадуі — зваліцца проста на надмагіллі. Ад вуліцы яшчэ маецца некалькі прасел у выглядзе зялёнага штакетніку, а па другі бок — поўнае запусценне. Адно мох, рудая леташняя трава і адзінкавыя заімшэлыя слупкі поруч з паваленымі праслами згніўшай агароджы... Надмагіллі таксама не ў лепшым стане: пахіленыя крыжы, парослыя мохам; паўразваленыя помнікі, надпісы на якіх ледзьве бачны, а то і зусім не чытаюцца... Словам, відовішча яшчэ тое... Але ці ў навіну? У правінцыі, у аддаленых куточках Беларусі — не нашмат лепей... Але адна справа — старыя могілкі памерлых ці паміраючых вёсак, і зусім іншая — могілкі "вогненнай". Той самай "вогненнай" вёскі, дзе паміралі ўсе і адразу — у страшэнных муках, у агні і дыме... Такіх вёсак — спаленых рукамі карнікаў ды іх памагатымі — на Беларусі як не 160. Няўжо на месцы былых вясковых трагедый (выключаючы са спісу, канечне, Хатынь) — гэткае ж становішча?..

— Не думаю, — кажа Віктар, водзячы мяне па замшэлых могілкавых сцежках, — проста такая ў нас мясцовая ўлада — што ў раёне, што ў сельвыканкаме. Колькі і як ні б'юся, каб хаця трохі дапамаглі добраўпарадкаваць гэтае святое месца — безвынікова. Адны адпіскі, тут яны майстры... Скажу болей, мясцовыя ўлады лічаць мяне сваім ворагам... А як жа — вытыркаецца, мае сваю грамадзянскую пазіцыю, значыцца, вораг... Валтузня цягнецца ажно з 2008 года.

**— А хто канкрэтна "цягне валынку" з добраўпарадкаваннем?**

— Старшыня Вялікараеўскага сельвыканкама спадарыня **Зоя Мікалаеўна Бордак.** На чарговы мой зварот — дапамагчы спілаваць дрэвы, паставіць агароджу — яна заявіла мне літаральна наступнае (летась яшчэ было): "У меня на этом кладбище никто не похоронен". Вось так. І гэта прадстаўніца ўлады, а тая ўлада нібыта ад народа і для народа... Цяпер быццам прынята рашэнне далучыць наш Вялікараеўскі сельсавет да Цімкавіцкага. То, можа, цімкавіцкія ўлады неяк паруплядца, не губляю надзеі.. Але пойдзем далей. Дык вось, прыкладна такое ж стаўленне да нашай праблемы і старшыні райвыканкама **Анатоля Іосіфавіча Жданені**. Звароты-просьбы пісаў, на прыёмы да яго хадзіў, а вынік адзін — нулявы. Усё, што ўдалося выбіць, дык гэта кантэйнер для смецця... Працытую вам чарговую адпіску ад 17 красавіка: ***"Согласно мероприятиям Великораевского сельисполкома ограждения для кладбища не запланировано. В течение года будут проводиться работы по замене отдельных прясел забора, проведут высечку поросли. До 1 мая будет решен вопрос о спиливании деревьев на кладбище".*** Канечне, нічога так і не зроблена.... А чаго ўласна чакаць ад улады, якая нават не прысутнічала ў 70-ю гадавіну (у лютым месяцы) на месцы гэтай жудаснай трагедыі? Была Вахта памяці ад моладзі, ад ветэранскай арганізацыі, былі музейшчыкі, мясцовыя людзі. І кветкі ўсклалі да помніка, і свечкі паставілі, і лампадкі запалілі... Але ж не прадстаўнікі сельсавета і райвыканкама, не кіраўніцтва сельгаспрадпрыемства "Руднае" — быццам і не іх гэта клопат, службовы і грамадзянскі абавязак... Затое "птушачку" ў сваіх справаздачах паставілі, тут ніякага сумнення. Аднойчы патрапіў на прыём да Жданені ды пытаюся ў яго: колькі нам, нашчадкам тых, хто загінуў у полымі, збіраць грошай, каб, значыцца, хапіла на добраўпарадкаванне могілак? А ён і адказвае: не спяшайцеся, можа, і не спатрэбіцца вам нічога збіраць, ды і народ зараз бедны. Навошта, маўляў, калі мясцовая ўлада бярэ ўсё на сябе... Паверыў, нават узрадаваўся. Яшчэ падумаў, дарэмна я адкрываў дабрачынны рахунак, дарэмна турбаваў людзей... і што вы думаеце? Літаральна праз пару-тройку дзён атрымліваю з райвыканкама афіцыйную цыдулу, у якой... усё наадварот, ніякіх канкрэтных мерапрыемстваў па добраўпарадкаванні. І тады я зноўку іду да старшыні райвыканкама. Той выклікае старшыню райсавета, яшчэ аўтара адпіскі (не сам жа пісаў) і яны разам пачынаюць мне распавядаць пра тое, што не ўсё так проста, што ў раёне шмат вясковых могілак, дзе яшчэ горай, чым у Калодзезным. Дарэмна я ўводзіў чыноўнікам, што ў "вогненнай" — асаблівы статус, асобная гісторыя. Сцяна непаразумення перада мною паўстала. У рэшце рэшт вярнуўся дахаты і напісаў старшыні ліст. У ім і выклаў усё, што думаю пра гэтую ўладу і пра яго асабіста як галоўнага "вертыкальшчыка" ў раёне... Не паверыце, да сёння валтузня працягваецца: мы знайшлі прыватнага прадпрымальніка, той вырабіў адмысловую агароджу, а заплаціць тыя няшчасныя 25 мільёнаў няма каму; мы знайшлі гаспадарніка з тэхнікай і той гатовы ўжо быў спілаваць дрэвы, але раптам... даў задні ход. Вядомая справа, умяшалася ўлада і чалавека папросту "прыструнілі", маўляў, ведай, хто тут камандуе... Усё гэта завецца проста: ставіць палкі ў колы, каб, ведаеце, кожны толькі на выцяжку і без усялякай там ініцыятывы. Але што казаць: рыба гніе з галавы, вось толькі чысцяць яе з хваста...

...Мусіць жа так, пагаджаюся з Віктарам Віктаравічам. Але хай бы тая рыба плавала лепш у чыстай, а не смярдзючай вадзе, тады і не гніла б — ні з галавы, ні з хваста...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

## Зоя Бордак: «Уся загваздка ў фінансаванні»

Гэты матэрыял рыхтаваўся на самым пачатку мая. Ужо і светлы Дзень Перамогі адзначылі, і памерлых ды загінуўшых продкаў памянулі на Радаўніцу... А што ў Калодзезным, ці ўпарадкавалі могілкі "вогненнай" вёскі, ці парупіліся напярэдадні святых дат?..

Літаральна ўчора тэлефаную Віктару Дашкевічу, а ўслед і старшыні мясцовага сельвыканкама спадарыні Зоі Бордак.

*"Яшчэ да Дня Перамогі, не кажучы ўжо пра памінальны дзень, мы, некалькі вяскоўцаў, толькі тым і займаліся, што ўпарадкоўвалі могілкі — расчышчалі ад хмызу, смецця, выграбалі леташняе і пазалеташняе. Цяпер зусім іншы выгляд, але ж гэта палова з таго, што трэба яшчэ зрабіць",* — распавёў вясковец.

А што ж сельскі Савет, райвыканкам? Ці дапамаглі хоць чым?

Па словах Віктара Дашкевіча, не. *" Як было на момант вашага прыезду, гэтак усё і засталося,* — запэўніў ён. — *Праўда, на 18 мая запланавалі правесці сход жыхароў. Павестка ўсё тая ж — добраўпарадкаванне могілак..."*

Званю да Зоі Мікалаеўны Бордак. Тая пацвердзіла, што такі сход сапраўды мае адбыцца.

**— Чаму ж сельвыканкам і райвыканкам самаўхіліліся ад вырашэння праблемы?** — пытаюся ў галавы сельвыканкама.

— Гэта не зусім так, — адказвае тая, — уся загваздка ў фінансаванні... Можаце сабе ўявіць: на тэрыторыі сельсавета сем могілак і іх трэба дагледзець, добраўпарадкаваць. А як управіцца, калі бюджэтам раёна на гэтую справу выдаткавана... 20 мільёнаў рублёў. На цэлы год! Каб паставіць новую агароджу толькі ў Калодзезным, спатрэбіцца 26 мільёнаў. А тут на ўвесь раён — толькі 20...

**— І якое выйсце?** —дапытваюся ў "безграшовай" улады.

— Плануем так: 50 працэнтаў ад неабходнай сумы збяруць вяскоўцы, а другую палову дасць раённая ўлада. Таму і збіраем сход, дарэчы, у Калодзезным ужо сабралі 4 мільёны рублёў..."

Пасля такой "аптымістычнай" заявы зрабілася зусім сумна. Ну, сапраўды, што гэта за ўлада, якая ледзь не з працягнутай рукой на цвінтары?! Капылянская "Хатынь" — і на цвінтары з працягнутай рукой... Тут, як кажуць, без каментарыяў...

